**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 8.25, 15.49, 7.24;
Віцебск — 8.22, 15.31, 7.09;
Магілёў — 8.14, 15.39, 7.25;
Гомель — 8.03, 15.44, 7.41;
Гродна — 8.38, 16.05, 7.27;
Брэст — 8.30, 16.15, 7.45;

**МЕСЯЦ:**
Апошняя квадра 16 снежня.

**ІМЯНІНЫ:**
Міколы;
Урбана, Дарыуша.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

19 СНЕЖНЯ 1992 г. субота, № 250 (22028)

# РОЗГАЛАС

## ВІЗІТ С. ШУШКЕВІЧА Ў МАЛДОВУ

20 снежня ў Кішынёў адбывае дэлегацыя Беларусі, якую ўзначальвае Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч.

У ходзе афіцыяльнага візіту ў Малдову С. Шушкевіч сустрэнецца з прэзідэнтам Рэспублікі Малдова М. Снегурам, старшынёй парламента А. Машану, членамі прэзідыума парламента.

Абодва бакі маюць намер падпісаць Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Малдова і Рэспублікай Беларусь.

У праграме знаходжання беларускай дэлегацыі ў Малдове наведванне саўгаса, прамысловай асацыяцыі, а таксама пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі ў Малдове.

21 снежня дэлегацыя вяртаецца ў Мінск.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — БЕЛІНФАРМ.**

## Ці паддаецца прыватызацыі «чарнобыльскае жыллё»?

**КРАСНАПОЛЛЕ. Не так даўно быў прыняты новы Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь». У адпаведнасці з гэтым Законам, прыватызацыя жылля праводзіцца на строга добраахвотнай аснове. Аднак да гэтага часу ў Краснаполлі не знайшлося ніводнага чалавека, які рашыўся б прыватызаваць сваё жыллё. Падобная тэндэнцыя назіраецца і ў іншых месцах рэспублікі, якія больш за ўсё пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і звязана, хутчэй за ўсё, з няўпэўненасцю ў заўтрашнім дні.**

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ

## ПЕРШАЯ СПРАВА — ПАДАТКІ. УСЁ АСТАТНЯЕ — ЗАТЫМ...

Відаць, шматпакутнаму пытанню па Асноўнаму Закону Рэспублікі Беларусь, да чарговага абмеркавання якога дэпутаты меліся вярнуцца ў чацвер вечарам, давядзецца яшчэ нямала пачакаць. У пятніцу дэпутаты працавалі да 2 гадзін дня і амаль увесь час быў патрачаны на разгляд 59-га пункта парадку дня — аб праектах заканадаўчых актаў РБ па ўнясенню змяненняў і дапаўненняў у законы рэспублікі па пытаннях падаткаабкладання. Даволі сур'ёзнае пытанне: беларускія парламентарыі не раз крытыкаваліся і са старонак друку, і на розных прадстаўнічых канферэнцыях дзелавымі людзьмі за невыносна цяжкае падаткаабкладанне за пасрэдніцкую, біржавую і банкаўскую дзейнасць. У нашых суседзяў — на Украіне, у Расіі — падаткі на гэты від дзейнасці не перавышаюць 40 працэнтаў, у той жа час у Беларусі яны складалі ўсе 60. Вялікія грашовыя сродкі, сыравіна рознымі шляхамі сплывалі за межы рэспублікі. Што ж, сёння мы можам парадавацца: несправядлівасць тут выпраўлена, і нашы прадпрымальнікі, нарэшце, могуць уздыхнуць спакойна.

З самай жа раніцы дэпутаты паспрабавалі прыступіцца да пастановы Вярхоўнага Савета «Аб прызнанні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых і членаў іх сем'яў». Закон аб грамадзянстве, які прыняты ў нашай краіне, неадназначна ўспрымаўся грамадскасцю, успомнім хоць бы, як «бразнуў дзвярамі» Уладзімір Кавалёнак. Ну, а калі паглядзець на яго вачамі вайскоўцаў, якія прыбылі ў Беларусь у саставе груп войск....

На жаль, дэпутаты так і не здолелі ўчора прыняць рашэнне.

Затое літаральна на працягу трох хвілін разабраліся з дакладам часовай камісіі па вывучэнню пытання захавання маёмасці каманднага пункта былога штаба Аб'яднаных Узброеных Сіл краін Варшаўскага Дагавора.

У 12.50 дэпутаты беларускага парламента стоячы віталі з'яўленне ў зале пасяджэнняў часова выконваючага абавязкі Прэзідэнта Літвы А. Бразаўскаса, які знаходзіўся ў нашай краіне з рабочым візітам. Спадар Бразаўскас выступіў з кароткай прамовай.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## ЛІТВА ІДЗЕ НА ЗБЛІЖЭННЕ

**Учора ў 11 гадзін, падчас рабочага візіту ў Беларусь, кіраўнік парламента Літоўскай Рэспублікі А. Бразаўскас (на чале дэлегацыі) сустрэўся са Старшынёй Савета Міністраў нашай рэспублікі В. Кебічам, разам з якім былі прадстаўнікі ўрада, рэспубліканскіх ведамстваў.**



А ўсё-такі мы яшчэ не адчулі ў поўнай меры паліўна-энергетычнага крызісу, які адчуваюць літоўцы. Калі наш калега з Літвы спытаўся ў нас, журналістаў Беларусі, колькі каштуе ў рэспубліцы кілават-гадзіна электраэнергіі, мы адразу дакладна не змаглі адказаць, пачалі гадаць. У той жа час калега паведаміў: у Літве кілават-гадзіна каштуе ў пераводзе на расійскія грошы каля трох рублёў. А ўжо пасля гэтага некаторыя з нас звярнулі ўвагу на тую ілюмінацыю, якая зіхацела ў фае Дома знешнеэканамічных сувязей, пакуль у зале ішлі перагаворы...

Як заявіў пасля перагавораў у невялікім інтэрв'ю для прэсы А. Бразаўскас, у першую чаргу менавіта ў галіне паліўна-энергетычнага комплексу і намячаецца ўзаемнае супрацоўніцтва рэспублік.

Увогуле, як можна было зразумець кіраўнікоў дэлегацый, праблемы эканамічнага супрацоўніцтва сталі асноўнай тэмай перагавораў. Прычым літоўцам, няйначай, патрэбна пэўная дапамога, бо іх эканоміка знаходзіцца цяпер у цяжкім стане. Гэта адзначалася на той жа лятучай прэс-канферэнцыі, а ўжо наш «ранейшы» калега паведаміў такія лічбы: спад у прамысловасці складае ў іх 57 (!), а ў сельскагаспадарчай вытворчасці — 60 (!) працэнтаў.

Вядома, гэта сустрэча з'яўляецца свайго роду прыстрэлкай перад заключэннем будучых і, відаць, хуткіх пагадненняў. І не толькі эканамічных. На сустрэчы падкрэслівалася важнасць усталявання добрых дыпламатычных адносін, устанаўлення дакладнай граніцы (прычым, як заўважыў беларускі прэм'ер, праводзіць граніцу трэба так, каб не аказалася, што галава селяніна, які ляжыць на печы, апынецца ў Беларусі, а ногі — у Літве, г. зн. падыходзіць да пытання з усёй памяркоўнасцю).

Можна меркаваць, што Літва ідзе на збліжэнне. І гэта добры знак. Трэба ўсё ж знаходзіць тое, што аб'ядноўвае, а не раз'ядноўвае.

***

А. Бразаўскас сустрэўся таксама са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевічам. Справаздача аб гэтай сустрэчы будзе надрукавана ў наступным нумары.

**[Кар. «Звязды»].**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# Мінск—Кіеў: 20 падпісаных дакументаў на міжурадавых перагаворах

***Спецыяльныя карэспандэнты «Звязды» вядуць рэпартаж са сталіцы Украіны***

— Гэты візіт быў асуджаны на поспех, — адкрывае нам «тайну» дыпламат з Міністэрства замежных спраў Украіны, які ўсюды суправаджаў іншаземных журналістаў з Беларусі. Малады жвавы супрацоўнік службы бяспекі, які таксама быў замацаваны за групай прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі з Мінска, падмацоўвае ўпэўненасць у тым, што сёння ўсё будзе добра.

Мы размаўляем у Мар'інінскім палацы (названым так у гонар Марыі — маці рускай імператрыцы), дзе звычайна адбываюцца важнейшыя пратакольныя дзяржаўныя мерапрыемствы. Да пачатку цырымоніі падпісання міжурадавых пагадненняў застаецца не больш дзесяці хвілін. Падзеі сапраўды вельмі значныя ў жыцці дзвюх суседніх рэспублік. Бо за гэты год у адносінах паміж імі набралася столькі праблем, пытанняў, непаразуменняў, якія часам узнікалі штучна, як гаворыцца, на роўным месцы, што яны сталі негатыўна адбівацца на эканоміцы нашай рэспублікі, забеспячэнні яе жыхароў алеем, цукрам, іншымі харчовымі і нехарчовымі таварамі. Былі парушаны сувязі, якія яшчэ зусім нядаўна здаваліся непарушнымі, адпрацаванымі логікай узаемных інтарэсаў. І колькасць гэтых «разводаў» пагражала перайсці ў якасць. Несла немалыя страты і Украіна. Абодвум бакам станавілася ўсё больш відавочным, што надышоў час падпісання буйнога і разнастайнага пакета міжурадавых пагадненняў, якія нейкім чынам рэгулявалі б адносіны дзвюх незалежных краін у розных сферах.

Менавіта з гэтай мэтай і прыляцела шчыльна ўкамплектаваная ўрадавая дэлегацыя Беларусі на чале са Старшынёй Саўміна В. Кебічам у Кіеў. У яе саставе першы намеснік прэм'ера М. Мясніковіч, міністры: замежных спраў, абароны, фінансаў, сувязі і інфарматыкі, рэсурсаў, транспарту, старшыні Нацыянальнага банку і Дзяржэканомсувязі, кіраўнікі Брэсцкага і Гомельскага аблвыканкомаў, прадстаўнікі гандлю, мытні, чыгункі, Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі. Ужо толькі пералік саставу дэлегацыі паказвае, што перагаворы закраналі надзвычай шырокае кола пытанняў. У беларускай дэлегацыі не аспрэчвалі таго факта, што спадзявацца на поспех візіту дазваляла змена кіраўніка ўрада Украіны. Яго нядаўна ўзначаліў, як вядома, Л. Кучма — рэаліст, энергічны кіраўнік, па водгуках тых, хто сутыкаўся з ім.

Нам, напрыклад, стала ясна, што ўсё будзе добра, у час бліц-інтэрв'ю, якое далі журналістам Л. Краўчук і В. Кебіч пасля адносна непрацяглай, але, калі меркаваць па іх задаволеных тварах, выніковай і прыемнай гутаркі. Не ведаем, аб чым ішла размова і што дакладна гаварыў наш прэм'ер, але вочы ўкраінскага прэзідэнта літаральна ззялі. Ён выказаў шмат кампліментаў Беларусі, яе народу, назваў нашу рэспубліку сінявокай сястрой Украіны. Мы наўмысна супыняемся на гэтай акалічнасці таму, што прывыклі апошнім часам бачыць Л. Краўчука па «Астанкіна» ці Расійскім тэлебачанні раздражнёным, засяроджаным на растлумачэннях пазіцыі Украіны ў спрэчках з Расіяй. А зараз — зусім іншы чалавек.

У адказ на пытанне аб прыярытэтах знешняй палітыкі да Беларусі Леанід Макаравіч рассмяяўся, адзначыў, што яму на гэту тэму нават няёмка і гаварыць, бо ў адносінах да Беларусі і не павінна быць нейкай знешняй палітыкі — настолькі мы жывём разам. А палітыка адносна нашай рэспублікі будзе як да братняй дзяржавы, самага блізкага суседа.

З Беларуссю, здаецца, Украіна такія адносіны будзе мець. Гэта пацвердзіў і ўкраінскі прэм'ер Л. Кучма адразу пасля падпісання дакументаў у Мар'інінскім палацы. Усе іх пералічыць з-за дэфіцыту газетнай плошчы няма магчымасці. Скажам, што датычаць яны гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, парадку рэгулявання пазыкавых абавязацельстваў і крэдытных патрабаванняў у сувязі з выхадам Украіны з рублёвай зоны, адносін у галіне транспарту, сувязі, сумесных дзеянняў па ліквідацыі чарнобыльскай катастрофы, ваеннага супрацоўніцтва і г. д.

Ужо ў самалёце мы папрасілі В. Кебіча пракаменціраваць вынікі візіту ўрадавай дэлегацыі.

— Нас абвінавачвалі ў тым, што мы толькі з Расіяй падпісалі ўсім вядомыя дакументы, а іншыя рэспублікі ігнаруем. Гэты візіт сведчыць пра іншае. Усе падпісаныя пагадненні вельмі важныя для рэспублікі, але я выдзеліў бы тры іх блокі. Першы блок — аб эканамічных адносінах. Я, напрыклад, з хваляваннем чакаў падпісання дакумента аб увядзенні зоны свабоднага гандлю. Чаму? Украіна адносілася да гэтага пытання вельмі насцярожана і не хацела падпісваць адпаведны дакумент. Я лічу яго дакументам № 1. Мы цяпер будзем свабодна гандляваць і не будзем абкладваць падаткамі тавары, якія рухаюцца насустрач з Беларусі на Украіну і наадварот. У сусветных цэнах плюс для нашай рэспублікі складзе 118 мільёнаў долараў.

Вельмі важным з'яўляецца падпісанне пагадненняў аб бязвізавым уездзе грамадзян Беларусі на Украіну і наадварот.

Яшчэ дамовіліся аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў з Украінай, пастаўках нам цукру і алею.

Вялікае значэнне мае блок ваенных пагадненняў. Яны закранаюць лёс ваеннаслужачых беларусаў і ўкраінцаў, сумесную вытворчасць ваеннай тэхнікі, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне армій, пастаўкі запасных частак.

У цэлым я вельмі задаволены вынікамі візіту дэлегацыі, перагаворамі з прэм'ер-міністрам. Мы палічылі мэтазгодным да 1 студзеня 1993 года зрабіць узаемнае пагашэнне даўгоў паміж беларускімі і ўкраінскімі прадпрыемствамі, — сказаў В. Кебіч.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**
**Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**

## Новы погляд на Беларусь

**«Пазіцыі нашых дзяржаў вельмі блізкія і могуць быць без цяжкасці ўзгоднены і вызначаны канчаткова», — заявіў учора Альгірдас Бразаўскас, выступаючы перад дэпутатамі Вярхоўнага Савета Беларусі.**

Выступленне часова выконваючага абавязкі Прэзідэнта Літвы, Старшыні літоўскага Сейма было дынамічным, канструктыўным і акрэслівала шэраг праблем ва ўзаемаадносінах паміж Беларуссю і Літвой, якія павінны быць вырашаны ў самым блізкім часе.

У словах Бразаўскаса гучала ўскосная крытыка сваіх папярэднікаў: «Беларусь лепш жыве, чым Літва. Яе эканамічныя паказчыкі, гаспадарчая дзейнасць не так расхістаны, як, на жаль, нашы». Непаразуменнем назваў лідэр суседняй дзяржавы тое, што паміж нашымі краінамі да гэтага часу не ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны. Па яго перакананню, незалежная Беларусь з'яўляецца адной з новых зон прыярытэтных інтарэсаў Літвы.

Альгірдас Бразаўскас акрэсліў шэраг напрамкаў эканамічнага беларуска-літоўскага супрацоўніцтва. «Літва гатова і надалей пастаўляць Беларусі электраэнергію ўзамен на іншыя энергетычныя рэсурсы», — заўважыў ён. Было згадана таксама пра зацікаўленасць літоўскага боку ў транзітных шляхах на ўсход і поўдзень, якія вядуць праз Беларусь, і пра нашы інтарэсы ў партовай гаспадарцы суседзяў.

Няма сумненняў, што ўсходняя палітыка Літвы з прыходам да ўлады ў Вільнюсе левых сіл будзе значна скарэкціравана. Вельмі выразная дэталь: гаворачы пра беларуска-літоўскую граніцу, Бразаўскас выказаўся за тое, каб рэжым на ёй быў значна лібералізаваны.

У самым блізкім часе — ужо ў канцы снежня — плануецца візіт у Мінск новага прэм'ера Літвы Браніслава Лубіса. Мяркуючы па тым, што гэта будзе адна з першых замежных паездак новага лідэра літоўскага ўрада (як і цяперашні візіт Бразаўскаса), — у Вільнюсе глядзяць на Беларусь з намнога большай увагай, чым іх папярэднікі.

**Валянцін ЖДАНКО.**

**ПАВЕДАМЛЕННЕ**
**Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу**

## Аб індэксе спажывецкіх цэн

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу паведамляе, што ў лістападзе 1992 года ў параўнанні з кастрычнікам 1992 года індэкс цэн на харчовыя і нехарчовыя тавары і паслугі, уключаныя ў «спажывецкую карзінку», склаў 119,3 працэнта.

У лістападзе ў параўнанні са снежнем 1991 года кошт уключаных у мінімальную «спажывецкую карзінку» тавараў і паслуг узрос у 12,9 раза.

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.**

## ДАЕЗДЗІЛІСЯ...

**З 19 снежня кошт праезду па чыгунцы прамога і мясцовага прызначэння павялічыцца ў 3,5 раза.**

**Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у чыгуначным камерцыйным цэнтры, на прыгарадныя маршруты новае павышэнне цэн не распаўсюджваецца.**

**Таццяна ШЧЭБЕТ, БелаПАН.**

# «Карабейнікі» са службовымі пашпартамі

**Апошнім часам у нашых суайчыннікаў узрос інтарэс да замежных паездак. Калі за ўвесь мінулы год у турыстычных падарожжах па краінах Захаду пабывалі 23.374 жыхары Брэстчыны, то за 11 месяцаў гэтага іх аказалася ўжо 98.500. І не экзатычныя пейзажы, маляўнічая прырода, дзіўныя збудаванні вабяць наваяўленых турыстаў. Іх часцей за ўсё можна сустрэць на рынках Варшавы, Беластока, іншых гарадоў Польшчы. Дабіраюцца і да Германіі, нават Турцыі... Але тут яшчэ, як кажуць, паўбяды, бо едуць у асноўным на свае, кроўныя. Але сярод іх нямала і такіх, што прыязджаюць сюды па службовых пашпартах, з адпаведнымі льготамі. І хоць у «суправадзілаўках», як правіла, пазначаюцца высакародныя мэты іх паездак, накшталт устанаўлення «гандлёвых адносін з партнёрамі», «вывучэння замежнага вопыту арганізацыі вытворчасці», «укаранення новых тэхналогій» і г. д., на справе іх хвалюе адно: як мага даражэй збыць прывезены тавар, прыкупіць дэфіцыт, што з рукамі адарвуць суайчыннікі, ці хоць бы «перакаваць» заробленыя злотыя ў долары.**

Хто хоць аднойчы пабываў за мяжой, ведае, якая гэта няпростая справа — атрымаць візу. Мала таго, што даводзіцца чакаць жаданага дазволу ад АВІРа тыдні, а то і месяцы, бо чэргі жадаючых велізарныя, дык яшчэ і пошліна немалая. А колькі потым намучышся ў чэргах непасрэдна на кантрольна-прапускных пунктах... Але гэта для звычайных грамадзян, што едуць па турыстычных пуцёўках, прыватных выкліках. Што датычыцца службовых паездак, то тут нямала льгот. Як жа, чалавек едзе па справах, ён не можа чакаць! Вось гэты пралаз і імкнуцца скарыстаць рознага роду прайдзісветы. Як, якім чынам удаецца ім абвесці вакол пальца высокіх чыноўнікаў са спецыяльна створанай камісіі Брэсцкага аблвыканкома, якой даручана афармляць візы на службовыя паездкі? Гэтым пытаннем і занялася Брэсцкая абласная пракуратура. Скажам адразу, розных парушэнняў, злоўжыванняў выяўлена нямала. Так, у рабоце камісіі павінен строга захоўвацца прынцып калегіяльнасці. Дзеля чаго? Каб не даць магчымасці таму ці іншаму чыноўніку, нібы ўдзельнаму князьку, уласнаручна выдаваць тыя візы. На справе ж старшыня камісіі Л. Лемяшэўскі і яго намеснік А. Дабруноў самі вырашалі, каму даць «зялёнае святло» на замежныя вояжы.

Не заўсёды правяраюцца неабходнасць і абгрунтаванасць шматразовых выездаў у службовыя камандзіроўкі. Так, Л. Лемяшэўскім 3 верасня па пісьму Брэсцкага прадстаўніцтва «Белаграінгандлю» былі дадзены дазвол на шматразовы выезд па службовых мэтах у Польшчу, Венгрыю, Чэха-Славакію, Румынію, Балгарыю і КНР галоўнаму бухгалтару гэтай арганізацыі Л. Сілаковай. Як яна потым растлумачыла, выезды ў вышэйназваныя краіны ёй неабходны для праверкі своечасовасці пералічэння грошай кліентамі на карэспандэнцкія рахункі Брэсцкага камерцыйнага банка за мяжой.

Але Брэсцкае прадстаўніцтва «Белаграінгандлю» мае кантракты з 76 фірмамі ў Польшчы, Венгрыі, Германіі, Аўстрыі і Сірыі. Неабходнасць жа шматразовых выездаў Л. Сілаковай у Чэха-Славакію, Румынію, Балгарыю і Кітай нічым не абумоўлена. Пры вырашэнні пытання аб выдачы дазволу на выезд за мяжу гэтае пытанне не вывучалася.

Падобны дазвол на шматразовыя выезды ў Польшчу, Венгрыю, Югаславію, Чэха-Славакію, Кітай і Кубу быў дадзены персанальна Л. Лемяшэўскім старшыні Брэсцкага раённага аб'яднання «Сельгасхімія» Н. Дугельнаму. У пісьме, падпісаным намеснікам старшыні аб'яднання В. Сіваком, было ўказана, што службовыя паездкі ў вышэйназваныя краіны неабходны Н. Дугельнаму ў сувязі з заключэннем кантрактаў на пастаўку ў РБ збожжа і прадуктаў харчавання ў абмен на мінеральныя ўгнаенні. У аб'яднанні, маўляў, ёсць папярэднія дамоўленасці з Кітаем аб пастаўцы туды мачавіны ўзамен на збожжа. Год заканчваецца, а дамоўленасць дагэтуль не рэалізавана. З якой мэтай атрыманы дазвол на шматразовыя паездкі ў Югаславію, Чэха-Славакію і на Кубу, Н. Дугельны аргументаванага адказу даць не змог.

Нярэдка дазволы на шматразовыя выезды за мяжу па службовых справах атрымліваюць грамадзяне, што не працуюць у арганізацыях і прадпрыемствах, якія за іх хадайнічалі.

Так, Л. Лемяшэўскі ў чэрвені даў дазвол на шматразовы выезд у Польскую Рэспубліку дырэктару МП «Брэстлес» П. Гарбунову і яго намесніку В. Стуку, хоць В. Стук у гэты час у МП не працаваў. Таксама па хадайніцтву П. Гарбунова асабіста Дабруновым быў дадзены дазвол на пяціразовы выезд у Польскую Рэспубліку вадзіцелю МП А. Петруковічу і экспедытару Д. Гарбунову, якія ў гэты перыяд на

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# Як жыць у беларускім бараку «рублёвай зоны»

Наколькі я разумею, па шляху да рыначнай эканомікі наша кіраўніцтва ўчыніла чарговую экспрапрыяцыю. Пасля некалькіх тыдняў замарожвання пералічэнняў у Расію аб'яўлена: пералічэнні могуць рабіцца свабодна, але... Адным словам, усе наяўныя на рахунку рублі аўтаматычна аб'яўлены «рубелямі» («зайцамі»), г. зн. нейкім таямнічым (з п. г. закона) унутрырэспубліканскім плацежным сродкам.

Паўстае пытанне: куды падзеліся, напрыклад, 14 мільёнаў нашага «Эрыдана»? Хто і калі верне нам страты, што вынікаюць з немагчымасці своечасовай аплаты дасланых фірме расійскіх паліграфматэрыялаў?

Атрымліваецца, што раптоўна рублі РФ аб'яўлены замежнай валютай, палавіну якой я павінен фактычна прымусова прадаваць нашаму Нацыянальнаму банку, прычым увесь наш рублёвы баланс, скажам, за 10 з лішнім месяцаў гэтага года як бы занулены, а па сутнасці ўсе атрыманыя намі сёлета расійскія грошы прымусова скуплены Нацыянальным банкам РБ у прапорцыі 1:1. Інакш кажучы, экспрапрыяцыя абрушылася якраз на тых, хто вёў эфектыўную для рэспублікі палітыку, фактычна ўносіў станоўчы ўклад у агульны гандлёвы баланс дзвюх рэспублік.

Я цудоўна разумею: адной з галоўных прычын гэтага рашэння паслужыў неаплачаны вываз у РФ тавараў дзяржпрадпрыемстваў РБ прыкладна на 100 млрд. рублёў. Сам па сабе такі аб'ём ставіць пытанне аб тым, ці кантралюе ўрад — не ў крыўду яму будзе сказана — эканамічную сітуацыю? Але Бог з імі, з агульнымі пытаннямі. Мяне больш хвалюе пытанне прыватнае — чаму, уласна, наша фірма павінна пакутаваць ад камерцыйнай бяздарнасці мясных ці трактарных каралёў?

І ўсё ж, калі пытанне здасца занадта прыватным, паспрабую яго абагульніць. **Чаму дзяржава, якая абавязана адказваць за эканоміку дзяржаўных прадпрыемстваў, фактычна перакладвае адказнасць за разбуральную палітыку дзяржаўнага дырэктарска-міністэрскага корпуса на недзяржаўныя прадпрыемствы — такія, як «Эрыдан»?**

Вы, паважаныя кіраўнікі, добра разумееце: свабодны вытворца ніяк не зможа дазволіць сабе і сотай долі такой неаплачанай адгрузкі — ён проста вылеціць у трубу без усялякіх там законаў аб банкруцтве.

Думаю, нанесены яшчэ адзін удар па развіццю прадпрымальніцтва. Як і даказваў я год назад, пад маркай палітыкі т. зв. «раздзяржаўлення і прыватызацыі» на самай справе праводзіцца **палітыка адзяржаўлення свабодных (недзяржаўных, альтэрнатыўных) прадпрымальніцкіх структур.**

Для пачатку ў мінулым годзе фактычна ліквідавалі сістэму льгот для шырокага кола прадпрыемстваў. Напрыклад, для прадпрыемстваў творчых саюзаў. Ні з таго, ні з сяго былі ўстаноўлены (зусім «са столі») абмежаванні абароту для малых прадпрыемстваў, якія да таго часу (май 1991 г.) і года не адпрацавалі, а таму не было ніякага статыстычнага матэрыялу, каб разабрацца — якія прадпрыемствы малыя, якія сярэднія, якія буйныя. І заднім числом (хтосьці імкнецца будаваць прававую дзяржаву?) абадралі (не магу знайсці іншага слова) масу прадпрыемстваў...

У цэлым да 1992 года новыя прадпрымальніцкія структуры былі пастаўлены ў літаральна тыя ж умовы бюджэтна-фондавых плацяжоў, што і старыя магутныя дзяржманапалісты, якія гадамі і дзесяцігоддзямі стваралі свае асноўныя фонды і інфраструктуру. І ўсё пад цудоўным лозунгам — **роўнасць усіх форм уласнасці.** Але калі дзяржава бярэ з нашага прыбытку столькі ж, колькі з прыбытку дзяржаўнага прадпрыемства, то фактычна яна паводзіць сябе як уласнік нашага прадпрыемства.

Не ведаю, што раяць вам, спадары кіраўнікі, вашы высокавучоныя эканамічныя саветнікі, але сітуацыя простая і нават відавочная. Напачатку **сумленнаму** прадпрымальніку (г. зн. які не прамывае ценявыя капіталы) няма з чаго інвесціраваць стварэнне вытворчай інфраструктуры, апрача як з **ільгот — падатковых і крэдытных.** У сэнсе крэдытаў ён цалкам аддадзены на волю камерцыйных банкаў. Нацыянальны банк палец аб палец у плане льготных крэдытаў тут не ўдарыў. А вось падатковыя льготы — гэта справа заканадаўчая. І па гэтай частцы — зноў жа не ў крыўду будзе сказана — нашы заканадаўцы ўсе сілы прыклалі, каб **ніводзін разважны прадпрымальнік і блізка не падышоў да развіцця той ці іншай вытворчасці.**

Нельга не сказаць і аб вядомай экспрапрыяцыі канверсуемай валюты. Жыў-быў Знешэканомбанк, у прадпрыемстваў ляжала там на рахунках валюта. Раптам — няма валюты. І банк быццам бы іншы — толькі камерцыйны. І — маўчанне. Але, прабачце, валюта ж растрачана па ўказанню дзяржавы, яе ж не самі банкіры растранжырылі. Дык на каго ў суд падаваць, каб вярнулі сумленна нажытае?

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

Гісторыя без «белых плям»

Анатоль МЯСНІКОЎ

# Усевалад Ігнатоўскі

## ЛЁС І ТРАГЕДЫЯ

(Працяг. Пачатак у № 244, 246, 247).

— Гэта адно,— працягваў Ігнатоўскі.— А другое — наконт 1863 года. Тав. Агурскі вельмі правільна кажа, што не трэба ідэалізаваць паўстанне 63 года. Гэта правільная думка, але, на жаль, ён яе не падкрэслівае, ён яе збіў другімі думкамі і ўдарыўся ў палеміку, і я сказаў бы, у палеміку не зусім удалую...

Самуілу Агурскаму не сядзелася ў зале. Шэсць разоў перапыняў ён выступленне Усевалада Ігнатоўскага. Груба перабіваючы прамоўцу, ён апраўдваўся, раз за разам спасылаўся на Леніна, часопіс "Бальшавік Беларусі", выклікаючы сваімі заявамі смех у дэлегатаў з'езда... Прэзідэнт Акадэміі навук даказваў сваю правату аргументамі і фактамі.

— Ці быў рух дваранскім па сваім характары?— задаецца пытаннем Усевалад Макаравіч. Сапраўды, гэта быў па сваім характары рух дробнабуржуазны, і гэта прызнана цяпер фракцыяй гісторыкаў-марксістаў у Маскве. Бо сапраўды, калі мы прызнаем, што гэта шляхецка-дваранскі рух па характары, дык, значыць, гэта ж фэўдальны (феадальны — Заўвага А.М.) рух, і калі Мураўёў яго задушыў, значыць, ён добра рабіў. Вось калі мы так будзем разважаць, мы, значыць, тады дакацімся, што Мураўёў добра рабіў. Так што не заўсёды, таварышы, "левая" фраза вядзе да правільных вынікаў.

У доказ праваты сваіх ідэй Усевалад Ігнатоўскі прывёў, бадай што, галоўны аргумент. Ён спаслаўся на неапублікаванае яшчэ ў той час інтэрв'ю вядомага савецкага гісторыка, дзяржаўнага дзеяча акадэміка Акадэміі навук СССР Міхаіла Мікалаевіча Пакроўскага, які з'яўляўся тады кіраўніком Камуністычнай акадэміі і Інстытута чырвонай прафесуры. Адказваючы на пытанне: "Ваше мнение о 63 годе и о взгляде на это восстание Игнатовского и противоположных ему Агурского и Варского?" (праўда, зазначае Ігнатоўскі, "тады Агурскі нібы і не выказваў свайго погляду, так што не ведаю, як ён туды папаў"), Пакроўскі адказаў: "Из литературы я знаю: исторически более верна та характеристика, какую дает т. Игнатовский восстанию 63 года. Кто объясняет это восстание как шляхетское, тот незаметно для самого себя придёт на точку зрения Пилсудского и проч. Не знать этого — значит не знать истории".

Якую ж канкрэтна пазіцыю займаў Усевалад Ігнатоўскі ў ацэнцы паўстання 1863 года?

Даследуючы класавую сутнасць паўстання ў адной з важнейшых сваіх прац — "1863 год на Беларусі", ён найперш вызначае тыя сацыяльныя слаі грамадства, якія былі не задаволены прыгоннай палітыкай царскага рэжыму. Да гэтых сіл Ігнатоўскі адносіў буйных землеўладальнікаў, якія актыўна ўцягваліся ў капіталістычную сістэму гаспадарання, а таксама прамысловую і гандлёвую буржуазію. У паўстанні ж прымалі ўдзел: дробная збяднелая пралетарызаваная шляхта, разначынныя інтэлігенты, дробная буржуазія горада і вёскі, рамеснікі і рабочыя, частка сялян, незадаволеных рэформай 1861 года. Як зазначае гісторык, значная частка сялян Беларусі ў адносінах да паўстання займала нейтральную пазіцыю, другая частка актыўна выступала ў ім, а трэцяя — наогул была супраць паўстання, лічачы яго "шляхетнай", "панскай" справай. І менавіта выступленне апошніх Ігнатоўскі справядліва назваў рэакцыйным рухам.

Паўстанцы складаліся з дзвюх груп: "белых" і "чырвоных". "Белых" узначальвалі польскія магнаты і багатая радавітая шляхта, мэтай якіх было аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах да 1772 года, ды яшчэ "ў тых формах, у якіх яна памерла". Галоўным сродкам дасягнення яе магнаты і шляхта лічылі дыпламатыю, а ўзброенае паўстанне — толькі мерай для падтрымкі дыпламатаў. Рады "чырвоных" складаліся ў асноўным з дробнай рэвалюцыйна настроенай буржуазіі, інтэлігентаў і студэнтаў. У адрозненне ад "белых" галоўным сродкам барацьбы яны лічылі рэвалюцыйныя дзеянні. Будучая Польшча, на думку "чырвоных", павінна будавацца не на старых прынцыпах і асновах, а як шырока дэмакратычная рэспубліка.

Кіраўніком "чырвоных" на тэрыторыі Беларусі і стаў Кастусь Каліноўскі.

Каліноўскі быў упэўнены, што паўстанне будзе мець поспех толькі тады, калі ўдзел у ім прыме селянін. А ён, зазначае Ігнатоўскі, толькі тады пойдзе на барацьбу, калі яна будзе накіравана на задавальненне яго інтарэсаў, а не інтарэсаў землеўладальнікаў: "Зямля павінна быць адабрана ад паноў і аддадзена сялянам".

Аднак вернемся крыху да падзей 12 з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. У заключным слове Ян Гамарнік асудзіў спробу Самуіла Агурскага разгарнуць на партыйным з'ездзе дыскусію аб 1863 годзе. "Ёсць больш актуальныя пытанні,— указаў першы сакратар кіраўніку Гістпарта,— гэта пытанні гісторыі партыі". Але той і на гэты раз няўдала спрабаваў апраўдацца, тройчы ўстаўляючы сваё "я" ў час выступлення Гамарніка...

Брудная справа, тым не менш, была зроблена. Зроблена прадумана і тонка. У вартасцях акадэміка-гісторыка Ігнатоўскага спакваля засумняваліся... І найперш тыя, хто стаяў "на варце" заваёў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, справы Леніна—Сталіна.

У канцы дваццатых—пачатку трыццатых гадоў пачала складвацца адміністрацыйна-камандная сістэма, фарміравацца культ асобы Сталіна. Атмасфера нецярпімасці, падазронасці і варожасці ўсё больш і больш запаўняла грамадска-палітычнае жыццё ў краіне. У выніку пашырэння "маштабаў сацыялістычнага будаўніцтва" з вуснаў "бацькі народаў" прагучалі словы пра абвастрэнне класавай барацьбы...

Гістарычная навука, натуральна, не магла заставацца ў баку ад палітычнай барацьбы. Разгараецца вострая, далёкая ад палемічных метадаў вядзення, дыскусія, ацэнкі і вывады ў якой рабіліся адназначныя і бескампрамісныя: ва ўсім і ўсюды бачыліся памылкі, адмоўныя ўплывы, тэорыі і светапогляды "ідэйных праціўнікаў"... Сталінскія асабістыя ацэнкі станавіліся ісцінай у апошняй інстанцыі.

Тады ж, у канцы дваццатых — пачатку трыццатых, увaходзіць у лексікон і набывае правы грамадзянства і тэрмін "нацыянал-дэмакратызм".

Ні ў адным слоўніку, у тым ліку і такім грунтоўным, як "Советский энциклопедический словарь", няма тлумачэння гэтага злавеснага тэрміну. І я вазьму на сябе смеласць сказаць: чаму? Ды найперш, на маю думку, таму што быў ён штучны, надуманы, "вынайдзены" для таго, каб калі не апраўдаць, дык хоць бы крыху прыкрыць тыя злачынствы, што рабіліся пад знакам барацьбы з нацдэмаўшчынай.

На першапачатковым этапе нацыянал-дэмакратызм кваліфікаваўся як "правая" небяспека ў правядзенні культурнай рэвалюцыі ў краіне, як спроба і імкненне яго прыхільнікаў ставіць нацыянальныя інтарэсы вышэй класавых. У беларускай гістарычнай навуцы найбольшых "поспехаў" у выкрыцці нацыянал-дэмакратызму дасягнулі такія вучоныя, як С. Агурскі, В. Шчарбакоў, Ю. Майзель, М. Шапавалаў. Двое апошніх, выдаўшы ў 1929 годзе "Кароткі нарыс КП(б)Б", засведчылі імкненне нацыянал-дэмакратаў "вырошчваць нацыянальную форму культуры на шкоду яе пралетарскаму зместу". А неўзабаве нацыянал-дэмакратызм быў аб'яўлены ледзь не "родным братам" нацыянал-фашызму. І ўжо ў 1930-м нацдэмы адкрыта называліся "ворагамі народа", якія ставілі сваёй мэтай рэстаўрацыю капіталізму ў краіне. Аб такіх жа "намерах" іх у Беларусі засведчыла, у прыватнасці, трэцяя сесія Саўнаркома БССР у снежні таго ж, 1930 года.

Тады ж партыя і ўрад пачалі разгортваць кампанію па барацьбе з нацыянал-дэмакратызмам.

Неўзабаве ў Мінск прыбыла высокапастаўленая камісія ЦКК ВКП(б), якая павінна была абследаваць практыку нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы. Яе ўзначальваў старшыня Цэнтральнай кантрольнай камісіі Камуністычнай партыі Украіны А. Затонскі. Правёўшы пэўную патрэбную работу, на пасяджэнні бюро ЦК КП(б) Беларусі ён выказаў шэраг крытычных заўваг, якія, на яго думку, мелі месца ў працах Усевалада Ігнатоўскага. Такім чынам, работа камісіі была практычна поўнасцю зведзена да высвятлення асобы Усевалада Макаравіча. Абвінаваціўшы акадэміка ў правым ухіле, праяўленнях нацыянал-дэмакратызму, дапоўніўшы гэтыя "вывады" "ацэнкамі" Самуіла Агурскага, зробленымі на XII з'ездзе Кампартыі Беларусі, а таксама прышыўшы белымі ніткамі спробу стварыць калісьці нейкую міфічную Беларускую камуністычную партыю (мелася, вядома ж, на ўвазе БКА — заўвага А.М.), камісія па сутнасці і павесіла на прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук ярлык "ворага народа". Дарэчы, дакладваючы вынікі праведзенай "работы" ў нашай рэспубліцы маскоўскаму кіраўніцтву, Затонскі ўзмацніў крытыку асабістай дзейнасці Ігнатоўскага, хоць да работы Акадэміі прэтэнзій у яго не было.

Супраць Усевалада Макаравіча наладжваецца сапраўдная акцыя ачарнення і цкавання. "Актывізаваўся" друк, і ў першую чаргу газета "Звязда"... На яе старонках "прапаноўваюць" выступіць з артыкулам-пакаяннем і самому Ігнатоўскаму. На жаль, хутчэй за ўсё так і застанецца нявысветленай тайна: як, у якіх умовах і з якімі думкамі і намерамі пісаў ён той ліст:

—...Перажыткамі адраджэнства, якія засталіся ў мяне ад эсэраўска-грамадаўскага мінулага...маім нацыянал-апартунізмам у тэорыі і на практыцы; незалежна ад таго, хацеў я ці не хацеў...я зрабіўся, па правільнай фармулёўцы т.Гея (прысланы ў 1930 годзе з Масквы для разгрому беларускага "нацыяналізму" новы першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Кампартыі (бальшавікоў) Беларусі — заўвага А.М.) "нацыянал-дэмакратам з партбілетам у кішэні"... Зусім правільна пленум ЦК КП(б)Б (маецца на ўвазе пленум ад 25 кастрычніка 1930 года — заўвага А.М.) пастанавіў вывесці мяне са складу Бюро ЦК і ЦВК і перадаў справу аб далейшым маім знаходжанні ў партыі ў ЦВК, дзе яна разбіраецца. Як ні балюча, як ні цяжка гэта для мяне, але перад ЦК КП(б)Б і перад ўсёй партыяй я цвёрда павінен прызнаць, што палітычна я зрабіў здраду перад партыяй, хоць і не хацеў зрабіць гэтага суб'ектыўна...

Аднак і такая "споведзь-прызнанне" не дапамагла. Акцэнты былі ўжо расстаўлены на кастрычніцкім пленуме, на якім Канстанцін Веньямінавіч Гей у дакладзе "Аб чарговых задачах у нацпалітыцы" засяродзіў увагу на дзейнасці так званага "Саюза вызвалення Беларусі", крытыцы беларускага нацыяналізму — найперш у асобе У. М. Ігнатоўскага. Тут першы сакратар прыгадаў Усеваладу Макаравічу ўсё: і паходжанне "з сацыяльна чужога асяроддзя", і ўдзел у 1913 годзе ў падрыхтоўцы юбілейнага зборніка, прысвечанага 300-годдзю дынастыі Раманавых, і знаходжанне ў партыі эсэраў, і шмат што іншае...

У самым канцы 1930 года Ігнатоўскага вызваляюць ад пасады прэзідэнта Акадэміі навук, а ў студзені 1931-га выключаюць з радоў партыі.

Падзеі XII з'езда КП(б) Беларусі, "вывады" камісіі і рашэнні пленумаў Цэнтральнага Камітэта партыі далі мноства фактаў і "праверанага" матэрыялу органам ДПУ. І там прыходзяць да вываду: час дзейнічаць і ім!

Адзін выклік у ДПУ БССР змяняецца другім, трэцім, пятым...Ігнатоўскаму спачатку прапануюць, а потым — патрабуюць ад яго, каб ён стаў... абвінаваўцам сваіх былых сяброў і калег па навуцы, мастацтву, асвеце, якіх паспелі ўжо ўзяць як "нацдэмаў". Удалося ўстанавіць, што перад тым, як прапанаваць гэтую гнюсную ролю Усеваладу Макаравічу, яе спрабавалі навязаць Янку Купалу. Супрацоўнікі ДПУ таксама выклікалі яго, сцвярджалі, што паэт з'яўляецца кіраўніком "контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі" пад назвай "Саюз вызвалення Беларусі". Як стала нядаўна вядома, па "справе" "Саюза вызвалення Беларусі" праходзілі 86 чалавек. Сярод іх былі народныя камісары асветы і земляробства Беларусі А. Баліцкі і З. Прышчэпаў, прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук У. Ігнатоўскі і іншыя дзеячы. Кіраўніцтва гэтай сфабрыкаванай на паперы арганізацыі прыпісвалася Я.Лёсіку, С.Некрашэвічу, В.Ластоўскаму, У.Ігнатоўскаму, нават... Янку Купалу. Цікавы і вось які факт: выступаючы на згаданым ужо кастрычніцкім (1930 года) пленуме ЦК КП(б)Б старшыня ДПУ БССР І.Рапапорт адзначаў, што ў ягоным ведамстве няма ніякіх падстаў абвінавачваць Ігнатоўскага ў прыналежнасці да "Саюза вызвалення Беларусі". Тым не менш, не падзейнічала і гэта...

Янку Купалу і Усевалада Ігнатоўскага звязвала вялікая непадробная дружба. Акадэмікі АН БССР, шчырыя і сумленныя працаўнікі беларускай культурнай нівы, яны бачылі будучыню свайго народа нацыянальна аднароднай, самастойнай і высокай па ўзроўню развіцця. І асабістыя лёсы іх у многім аказаліся такімі падобнымі.

...Каб запалохаць Купалу, прымусіць яго пагадзіцца з роллю кіраўніка "Саюза вызвалення Беларусі", следчыя ДПУ перайначвалі на свой, патрэбны ім лад ягоныя словы, спрабавалі злавіць на недакладнасцях.

(Заканчэнне будзе.)

ВАША ЗДАРОЎЕ

# Вочы—люстэрка душы?

## Хутчэй—страўніка, сэрца, нырак і іншых органаў

**Кажуць, некаторыя жрацы-лекары старадаўняга Усходу вызначалі стан здароўя чалавека, усяго толькі зазірнуўшы яму ў вочы і памацаўшы пульс. Цікава, канешне, толькі не надта хвалюе, бо былі гэтыя дзівосы далёка і даўно. А вось тое, што нешта падобнае робіць нам сучаснік, урач Аляксандр ПРОТЧАНКА ў сваім мінскім кабінеце па вуліцы Жукоўскага, не можа не хваляваць. Асабліва ўлічваючы, што гэта абсалютна не звязана з ведзьмакамі і экстрасенсамі, якія з зайздроснай лёгкасцю бяруцца лячыць усё—ад раку да энурэзу. Метад яго навуковы і называецца «ірыдадыягностыка».**

**— Аляксандр Уладзіміравіч, у чым сутнасць ірыдадыягностыкі?**

— У тым, што ўсе органы і сістэмы чалавечага арганізма абследуюцца па радужнай абалонцы вока. Метад гэты заснаваны на сувязях нервовай сістэмы арганізма чалавека. Так званы трайнічны нерв (пятая пара чэрапна-мазгавых нерваў) змены ў арганізме «выдае» на паверхню радужнай абалонкі вока. Пры спецыяльным асвятленні і шматразовым павелічэнні ўсё гэта праследжваецца, фіксуецца, і атрыманыя даныя апрацоўваюцца камп'ютэрам. Усяго за 15 хвілін зусім бязбольнай і бясшкоднай працэдуры атрымліваецца досыць аб'ектыўная і дэталёвая інфармацыя аб стане здароўя пацыента.

**— Вашы дыягназы пацвярджаюцца?**

— Дакладнасць ірыдадыягностыкі дастаткова высокая: 90—95 працэнтаў.

**— А хто аўтар метаду?**

— Гэтаму метаду — тысячагоддзі. Вядома, што ў раскопках знаходзілі выявы вока з адпаведнымі надпісамі. Але «другое жыццё» ён атрымаў са з'яўленнем больш дасканалай оптыкі. У Германіі, ЗША, іншых краінах такая экспрэс-дыягностыка вядомая з канца мінулага стагоддзя, там гэтымі праблемамі займаюцца цэлыя інстытуты. У нас яна пачала распаўсюджвацца каля двух гадоў назад дзякуючы энтузіязму Яўгена Вельхавера, загадчыка кафедры неўралогіі медыцынскага факультэта Маскоўскага інстытута дружбы народаў. Гэты чалавек вывучае ірыдадыягностыку звыш 20 гадоў, аўтар некалькіх манаграфій. У яго я і вучыўся. А сам я па адукацыі — урач-неўрапатолаг, скончыў Ленінградскую ваенна-медыцынскую акадэмію. Ірыдадыягностыкай прафесіянальна займаюся два гады.

**— Як ставіцца да метаду ірыдадыягностыкі традыцыйная медыцына?**

— Пакуль што з недаверам. Гэта можна зразумець — метад яшчэ новы, незнаёмы, у інстытутах не выкладаецца. Калі аб'ектыўна, дык сёння існуюць толькі першыя яго парасткі. Але я бачу ў ім вялікія перспектывы. Нездарма тыя ж, скажам, ЗША і Германія шырока яго выкарыстоўваюць, нягледзячы на тое, што ў іх і без таго шмат магчымасцей у галіне дыягностыкі — іх тэхнічную ўзброенасць не параўнаць з нашай. У ірыдадыягностыкі такая вялікая перавага, як хуткасць, і яна адразу паказвае стан усяго арганізма. Таму на Захадзе яе выкарыстоўваюць і для кантролю за старэннем арганізма, і для назірання за ходам лячэння. Напрыклад, пацыент абследуецца ў пачатку лячэння і потым праз пэўны тэрмін, і адразу відаць эфектыўнасць прэпаратаў і працэдур, іх уздзеянне на арганізм.

**— А захворванні на лейкозы, паталогіі шчытападобнай залозы вы можаце выявіць пры дапамозе вашага метаду? Для нас на Беларусі гэта было б надзвычай актуальна.**

— Канчатковы дыягназ у гэтай галіне я ставіць не буду, бо тут патрэбны некалькі метадаў у комплексе. Але адпаведныя змяненні ў арганізме, нават на ранняй стадыі, абавязкова заўважу і параю звярнуцца да спецыялістаў.

**— У вашым кабінеце робіцца толькі дыягностыка?**

— Не толькі. У канцы сеанса пацыент атрымлівае таксама распрацаваныя камп'ютэрам рэкамендацыі па лячэнню зёлкамі. У перспектыве думаем наладзіць сувязь з адным лясным санаторыем на прадмет дастаўкі лекавых раслін, каб



выдаваць адразу гатовыя зёлкавыя зборы, але і зараз практычна ўсё, што «прапісвае» наш камп'ютэр, можна купіць у аптэках.

Яшчэ мы выконваем сеансы іголкатэрапіі, і тым, у каго для гэтага знаходзім паказанні, далёка хадзіць не трэба.

Наогул, імкнёмся арганізаваць сваю дзейнасць так, каб людзям было зручна. Працуем у другой палавіне дня, у тым ліку і па суботах, запісваем на прыём недзе за тыдзень па тэлефоне 33-33-36. Таму, думаю, ні ў кога не ўзнікне асаблівых цяжкасцей, каб трапіць да нас.

**На развітанне я — не ўстрымаўся! — сеў да цудоўнага апарата і, шырока раскрыўшы вочы пад нейкім яркім промнем, пастараўся глядзець у адну кропку. І ўрач пачаў «перабіраць» мае вантробы, як быццам яны былі раскладзены перад ім на стале. Кароткія заўвагі, націскаюцца клавішы камп'ютэра, паўзе каляровая стужка. І вось вынікі: з таго, пра што я дакладна ведаю, нічога не ўпушчана. Плюс яшчэ нешта дробнае і — дзякуй Богу — несур'ёзнае. Калі гэтак жа працавалі і старажытныя жрацы, народу было за што іх паважаць.**

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**



ХАРАКТАРЫ. Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 20 снежня

**БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.40.** Праграма перадач.
**8.45.** «Расстанемся — пакуль добрыя». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**9.50.** Урокі здароўя.
**10.20.** «Развітанне». «Джульета і іншыя».
**11.10.** Латарэя аўтографаў.
**12.10.** Мова, на якой «размаўляюць» ручнікі.
**13.35.** Х. Бойчаў. «Швейцарыя, Швейцарыя...». Спектакль.
**15.35.** Трагедыя вёскі Бабчын Хойніцкага раёна.
**16.10.** Пра шахматы і шахматыстаў.
**16.40.** «Спявае Юрый Антонаў».
**17.05.** Літаратурна - музычная кампазіцыя па вершах Е. Лось.
**18.05.** «Мапет-шоў». 2-я серыя.
**18.31.** Паміж намі, жанчынамі. Генная спадчына і наша будучыня.
**19.30.** Геракл. Культурызм — спорт для ўсіх.
**20.00.** Панарама.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** «Крок» прадстаўляе..
**22.30.** Каралеўскае паляванне. Шоу-казіно.
**23.30.** Студыя «Тэлесябрына». Эн-Ці-Ві на Беларусі. Сізбартоп-20.
**0.10.** «Сінема» прадстаўляе: мастацкі фільм «Сто дзён у Палерма» (Францыя).

**КАНАЛ «АСТАНКІНА»**

**6.00.** Гадзіна сілы духу.
**7.00.** Тыраж «Спортлато».
**7.15.** «Чарцяня з пушыстым хвастом». Мультфільм.
**7.30.** «Залатыя россыпы». Перадача з Пярмі.
**8.00.** Дак. фільм.
**8.30.** Раным-рана.
**9.00.** «Пакуль усе дома». Забаўляльная праграма.
**9.30.** Ранішняя зорка.
**10.20.** Свет у вольны час.
**11.00.** «Прыгоды Чорнага Прыгажуна». 23-я серыя.
**11.25.** Новае пакаленне выбірае.
**12.15.** Народныя мелодыі.
**12.30.** «Піф і Геркулес».
**12.40.** «Падводная адысея каманды Кусто».
**13.30.** Служэнне муз не церпіць мітусні.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20.** Дыялог у прамым эфіры.
**15.00.** Клуб падарожнікаў.
**15.50.** Жывое дрэва рамёстваў.
**16.00.** Панарама.
**16.40.** Тэлелоцыя.
**16.55.** Уолт Дысней прадстаўляе..
**17.45.** Навіны.
**18.00.** Прэм'ера рубрыкі: «Обана — вугал». Шоў.
**18.50.** Прэм'ера фільма-спектакля маскоўскага тэатра «Сучаснік» «Анфіса». П'еса Л. Андрэева.
**20.55.** Рэклама.
**21.00.** Вынікі.
**21.45.** Спартыўны ўік-энд.
**22.00.** Матадор.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Чэмпіянат Расіі па рукапашнаму бою.
**24.00.** «Баль двайнікоў».

**КАНАЛ «РАСІЯ»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Мульці-пульці.
**7.30.** Дакументальная панарама «Ад першай асобы».
**8.20.** Праграма «Ключ»: «Навальніца 1812 года». Фільм 12-ы.
**8.50.** Наш сад.
**9.20.** «Прыгода ў каралеўстве». Мультфільм.
**9.50.** Аты-баты...
**10.20.** Рэг-тайм.
**10.50.** «Новыя казкі Шахеразады». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**11.55.** «Сям'я Смірновых: Як жыць далей?»
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.20.** «Не высечы...». Вядучы — У. Цветаў.
**13.35.** Паралельныя сусветы.
**14.20.** Мультфільм «Дараэман» (Японія). 15-я серыя.
**14.35.** Познер і Донах'ю.
**15.05.** Рэпарцёр.
**15.20.** Белая варона.
**16.05.** Кінакамедыя «Жыццё з бацькам».
**18.10.** Клуб «Жоўтая падводная лодка».
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Раман Карцаў і Віктар Ільчанка.
**20.50.** Прэзентацыя тыдня Сі-Бі-Эс на Расійскім тэлебачанні.
**21.00.** Момант ісціны.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** Начны клуб Эс-Эн-Сі.



## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**«Крыжаванка-пляцёнка» (12 снежня).** Па гарызанталях: 1. Маладая. 2. Дылёўка. 3. Кузурка. 4. Бурштын. 5. Казялец. 6. Сітаўка. 7. Каташок. Па вертыкалях: 1. Пільсць. 2. Стронга. 3. Пярэсна. 4. Ганталь. 5. Хмызняк. 6. Злучнік. 7. Літасць.

**«Што на малюнках?» (12 снежня).** На малюнках адлюстраваныя: **ібіс** — птушка атрада галянастых з доўгімі нагамі і доўгай загнутай дзюбай, якая жыве ў цёплых краінах, звычайна ля вады; **макрэль** (або скумбрыя) — рыба атрада акуняпадобных, бывае даўжынёй да 60 сантыметраў; **соўка** (або начніца) — матылёк з размахам крыльцаў звычайна 3—5 сантыметраў, шкоднік сельскагаспадарчых і садовых культур; **даўгапят** — жывёла сямейства паўмалпаў атрада прыматаў з даўжынёй цела да 16 сантыметраў і хваста да 27 сантыметраў, жыве на астравах Малайскага архіпелага.

### РАЗМЯСЦІЦЕ ЛІКІ

У 16 квадраціках размешчаны лікі ад 1 да 16 уключна такім чынам, што сума кожнага рада (двух гарызантальных і двух вертыкальных) роўная 41. Размясціце гэтыя ж лікі ў такім парадку, каб сума па гарызанталях і па вертыкалях была роўная 42, потым 43, потым 44.

А цяпер рашыце другую задачу. Тыя ж лікі ад 1 да 16 размясціце ў кружках дадзенай фігуры такім чынам, каб сумы лікаў у вяршынях чатырох квадратаў і чатырох злучаных адзін з адным кружкоў былі роўныя.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1 | | 2 | |
| 3 | 5 | 12 | 7 | 14 |
| | 9 | | 11 | |
| 4 | 10 | 8 | 6 | 13 |
| | 16 | | 15 | |

Чакаем адказаў на гэтыя заданні.

### ЗАГАДКІ З КАЛЕКЦЫІ ШКОЛЬНІКА

Школьнік з вёскі Балашы Вілейскага раёна Вадзім Сільвановіч вельмі любіць разгадваць загадкі і рашаць мудрагелістыя задачкі. А яшчэ ён любіць... калекцыяніраваць іх. Ён даслаў у рэдакцыю цэлую нізку такіх загадак і задач. Некаторыя з іх мы зараз друкуем.

● Стаіць у полі дуб, а на ім дванаццаць голляў, а на голлях пяцьдзесят два гнязды, а ў кожным гняздзе па сем яек. Што гэта за дуб?

● Гаспадар багаты, ды смуцён, гаспадыня белая, ды бедная. Хто гэта?

● Сястра да брата ідзе, а брат ад сястры хаваецца...

● Што гаспадыня робіць спачатку з гаршчком, калі пачынае варыць абед?

● Чатыры гіры важаць разам 40 фунтаў. Якой вагі павінна быць кожная з іх, каб з іх дапамогай можна было ўзважыць любую колькасць фунтаў ад 1 да 40?

Паспрабуйце разам з дзецьмі разгадаць гэтыя загадкі...

## КРЫЖАВАНКА

**ПА ГАРЫЗАНТАЛЯХ:** 5. Зорка ў сузор'і Кіта. 7. Мінерал, разнавіднасць халцэдона. 10. Грашовая адзінка ў некаторых заходніх краінах. 11. Высакаякасная сталь для халоднай зброі. 12. Бог кахання ў індуізме. 13. Радыеактыўны хімічны элемент. 14. Нямецкі пісьменнік XX стагоддзя. 16. Арнаментальная дэкаратыўная кампазіцыя са шкла. 17. Драпежная птушка. 18. Форма кантролю ведаў навучэнцаў. 20. Археолаг, які адшукаў Трою. 24. Апавяданне І. Буніна. 28. Распаўсюджанае пустазелле. 29. Афіцыйны дыпламатычны дакумент. 30. Скура жывёлы з захаваным валасяным покрывам. 31. Тыповая расліна Мексікі. 32. Французскі мастак, адзін з заснавальнікаў кубізму. 33. Сталіца дзяржавы ў Паўднёвай Азіі.

**ПА ВЕРТЫКАЛЯХ:** 1. Чыгун, устойлівы да высокіх тэмператур. 2. Род загадак. 3. Малпа роду павіянаў. 4. Верш Я. Коласа. 5. Каштоўны сорт кофе. 6. Нясучая частка машыны. 8. Рабро манеты. 9. Возера ў Эфіопіі. 15. Духавы клавішны музычны інструмент. 16. Пракладачны матэрыял для вокладкі. 18. Пачатак музычнага твору са слабой долі. 19. Дзяржава ў Паўночнай Амерыцы. 21. Чэшскі скрыпач, педагог, кампазітар. 22. Левы прыток Масква-ракі. 23. Частка акіяна. 25. Вопратка жыхароў старажытнага Рыма. 26. Рашучы момант у наступальных дзеяннях войскаў. 27. Падземная горная выпрацоўка.

Склаў Сяргей СІНЯКОЎ.
г. Орша.



## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае без ападкаў надвор'е, месцамі туман. Тэмпература паветра ў Мінску—ад 0 да 2 градусаў цяпла, у Гродна і Брэсце—1—3 градусы цяпла, у Віцебску—ад 0 да 2 градусаў марозу, у Магілёве і Гомелі — каля 0. У наступныя двое сутак: 20 снежня часам ападкі, на працягу сутак тэмпература паветра ад 3 градусаў марозу да 2-х цяпла, па ўсходу ўначы да 8 градусаў марозу, 21-га па паўднёваму ўсходу снег, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы 5—10, удзень—3—8 градусаў марозу.

Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь,
калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін — 32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91. Тэлефакс: 32-22-03.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 250.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12